# FABLES

ten years on the edge
VERTIGO X

issue 13 july 03
2.50 can 4.25

BILL WILLINGHAM
LAN MEDINA
CRAIG HAMILTON

SUGGESTED FOR MATURE READERS

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ПАДАННІ #13
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY




ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3
























ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ГЭТА... БОЗЛІ ВОЎК І ЯГО АДВАЖНАЯ КАМАНДА КАЗАЧНЫХ У САМЫМ РАЗГАРЫ ПРАЦЭСУ ЎОТЭРГІТАВАННЯ* КВАТЭРЫ ТОМІ ШАРПА.

**АДЫДЗІ** АД ЯГО, СІНЕБАРОД, І АПУСЦІ ГЭТУ МАРКІТАВАНУЮ **ГАРМАТУ**.

ЧАМУ?

КАЛІ МЫ НЯ МОЖАМ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЗНІШЧЫЛІ ЎСЕ ФАЙЛЫ ШАРПА, ТРЭБА ЎЖЫЦЬ БОЛЬШ РАДЫКАЛЬНАЕ ВЫРАШЭННЕ.

ДЫК ДАВАЙЦЕ ЗАБ'ЕМ ЯГО І СКОНЧЫМ ГЭТА.

ХІБА ТЫ НЕ ПАВІНЕН БЫЦЬ УНІЗЕ, ПІЛЬНАВАЦЬ ДЗВЕРЫ?

# Брудныя справункі

## Другая частка з дзвюх

СЦЭНАР: БІЛ УІЛІНГХЭМ
АЛОВАК: ЛЭН МЕДЫНА
ТУШ: КРЭГ ХЭМІЛТАН
ЛЭТЭРЫНГ: ТОД КЛЯЙН
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ: ДАНІЭЛЬ ВОЗО
ВОКЛАДКА: ДЖЭЙМС ДЖЫН
АС. РЭДАКТАРА: МАРЫЯ ХОХНЭР
РЭДАКТАР: ШЭЛІ БОНД
ПАДАННІ СТВОРАНЫ Б. УІЛІНГХЭМАМ
ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

*ВЫТВОРНЫ ДЗЕЯСЛОЎ, УЗНІКНУЎШЫ АД НАЗВЫ БІЗНЕС-КОМПЛЕКСУ І ГАТЭЛЯ «УОТЭРГЕЙТ» («WATERGATE») І СТАЎШЫ НАМІНАЛЬНЫМ ПАСЛЯ СКАНДАЛЬНАЙ ГІСТОРЫІ З ПРЭЗІДЭНТАМ ЗША РЫЧАРДАМ НІКСАНАМ, ЯКІ З ДАПАМОГАЙ ФБР І НАНЯТЫХ УЗЛОМШЧЫКАЎ УСТАЛЯВАЎ ПАДСЛУХАВАЛЬНЫЯ ПРЫЛАДЫ ДЛЯ НАЗІРАННЯ ЗА ШТАБАМ КАНКУРЭНТАЎ ПА ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЕ НА ВЫБАРАХ. ГЭТА ПРЫВЯЛО ЯГО ДА ЗМУШАНАЙ АДСТАЎЦЫ.


МАБЫЦЬ Я НЕВЫРАЗНА ВЫКАЗАЎСЯ? АДЫДЗІ, ЦІ Я ЗАБ'Ю ЦЯБЕ.


НУ, ПРАЯВІ СВОЙ ХАРАКТАР ХОЦЬ РАЗ, ВОЎК.
ТВОЙ НЕНАСІЛЬНЫ ПЛАН НЕ СПРАЦАВАЎ. ЗАРАЗ МЫ ВЫМУШАНЫ ЎЖЫЦЬ БОЛЬШ КАРДЫНАЛЬНЫЯ, АЛЕ БОЛЬШ ДЗЕЙСНЫЯ МЕРЫ.


Я ЗБІРАЮСЯ ЗРАБІЦЬ ГЭТА, ТАМУ НЕ ТУРБУЙСЯ НАКОНТ ТАГО, ШТО ЗАПЭЦКАЕШ СВАЕ **ЛАПЫ**.
МОЖАШ АДВЯРНУЦЦА, КАЛІ ТЫ **САПРАЎДЫ** НАСТОЛЬКІ ГРЭБЛІВЫ.


НАПЭЎНА НАМ ТРЭБА АДЫСЦІ.
ТАК, ДЖЭК...


...НАПЭЎНА ТАБЕ ТРЭБА.
НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ, КАЛІ НІКОМУ З ВАС НЕ ХАПАЕ СМЕЛАСЦІ ДЛЯ ЖОРСТКІХ ВЫРАШЭННЯЎ, Я НЯ БУДУ НАСТОЙВАЦЬ.


МЫ ЗРОБІМ, ЯК ЖАДАЕ БОЗІ, ПРЫ ЎМОВЕ, ШТО Ў ЯГО ЁСЦЬ ЗАПАСНЫ ПЛАН.


НА САМОЙ СПРАВЕ, ГЭТА **МОЙ** ПЛАН.
У ТАКІМ ВЫПАДКУ ЁН **АСУД-ЖАНЫ** НА ПОСПЕХ КАНЧАТКОВА, ЯК І **ЎСЕ ІНШЫЯ** ПЛАНЫ, ЯКІЯ ТЫ ПРЫДУМАЎ ЗА ЎСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ.


**ЗАГЛУХ-НІЦЕ.**
У НАС ШМАТ ПРАЦЫ, АЛЕ НЯ ТАК ШМАТ ЧАСУ, КАБ ЯЕ ВЫКАНАЦЬ.


ДЖЭК, ТЫ З ПАСТУШКОМ ПАД-РЫХТУЕЦЕ ТОМІ ШАРПА ДА ТРАНС-ПАРТАВАННЯ.
СІНЕБАРОД, ВЯРТАЙСЯ ЎНІЗ У ФАЙЕ, ДЗЕ ТЫ І ПАВІНЕН БЫЎ ЗАСТАВАЦЦА.
УСЁ НАСЕЛЬНІЦТВА ГОРАДА МОЖА ЎЖО БЫЦЬ ТАМ УНІЗЕ.
Я Б І ЗАРАЗ ТАМ **БЫЎ**, КАЛІ Б БЫЎ УПЭЎНЕНЫ Ў ТАБЕ.


ШТО ТЫ НАМ ДА ССІНЕННЯ І ДАКАЗВАЕШ.
ШТО З ТАБОЙ **ЗДАРЫЛАСЯ** ПАСЛЯ ВЫГНАННЯ?


КАЛІ ЯНЫ ПАСПЕЛІ ЦЯБЕ **ПРЫРУ-ЧЫЦЬ**?


ЦІ ТВАЯ БЫЛАЯ ДЗІКАЯ НАТУРА ЗАЎСЁДЫ БЫЛА ПАДРОБКАЙ?
СУМЕССЮ ВЫХВАЛЯННЯ І СПРЫТНАЙ ГУЛЬНІ НА ПУБЛІКУ?
ПРАЯВАЧНАЯ


НЕ ПРАЦЯГ-ВАЙ ГЭТА.
ІНАКШ ТЫ РАЗАРВЕШ МНЕ ГОРЛА, ІНАКШ ТЫ МЯНЕ ЗАБ'ЕШ, ІНАКШ БЛА-БЛА-БЛА?
ТЫ ЎЖО КАЗАЎ УСЁ ГЭТА РАНЕЙ, ВОЎК.

ТВАЕ ЗАЎСЁДАШНІЯ «ІНАКШ» РОБЯЦЦА МАРКОТНЫМІ.
ХІБА НІХТО НЕ КАЗАЎ ТАБЕ, ШТО ПАГРОЗЫ ГУБЛЯЮЦЬ СВОЙ СЭНС, КАЛІ ІХ ВЕЛЬМІ ЧАСТА ПАЎТАРАЮЦЬ, АЛЕ **НЕ ВЫКОНВАЮЦЬ** НАВАТ НІВОДНУЮ З ІХ?

МНЕ НЯ **ТРЭБА** БЫЛО ДЗЕЙНІЧАЦЬ, ТАМУ ШТО ТЫ АДСТУПІЎ І ЗАЎСЁДЫ **БУДЗЕШ**.
БЕЗУМОЎНА, ТЫ ВЕЛЬМІ ЖУДАСНЫ, КАЛІ ПАТРАШЫШ БЯЗЗБРОЙНЫХ **НЯВЕСТАЎ** У ПЕРШУЮ ШЛЮБНУЮ НОЧ, ЦІ ПРЫСТРЭЛЬВАЕШ СІДЗЯЧАГА НА **ЎНІТАЗЕ** НЕПРЫТОМНАГА ЧАЛАВЕКА.

ТЫ **БАЯЗЛІВЕЦ**, СІНЕБАРОД, ЯКІ ХАВАЕЦЦА ЗА БАГАЦЦЕМ І СТАНАМ.
А ЗАРАЗ, КАЛІ ТЫ НЕ ГАТОВЫ **АБВЕРГНУЦЬ**...



...Я ТАК І ЛІЧЫЎ, ФАЙНЫ ХЛОПЕЦ.
КАЛІ СКОНЧЫШ ССАЦЦА АД СТРАХУ, ПАДТУЛІ ХВОСТ І РАБІ ТОЕ, ШТО Я ТАБЕ КАЖУ.

ПАДПАРАДКОЎВАЙСЯ МНЕ.

І ЧАГО ТЫ ЧАКАЕШ? АПРАНАЙ ЯГО Ў ПОРТКІ, КАБ МЫ МАГЛІ НАРЭШЦЕ ВЫМЯТАЦЦА АДСЮЛЬ.
Я НЕ ДАКРАНУСЯ ДА ЯГО ПОРТАК. ДАВАЙ ТЫ.



ЧАС ЗАКРУГЛЯЦЦА, ХЛОПЧЫКІ. МЫ І ТАК ТУТ ЎЖО ВЕЛЬМІ ДОЎГА.

ПРАВЕРЦЕ, ЦІ ЁСЦЬ У НАС УСЕ І ЎСЁ, ШТО МЫ ЗАБІРАЕМ З САБОЙ.

ЗАРАЗ НАМ ТОЛЬКІ ЗВЫЧАЙНЫХ КОПАЎ НЕ ХАПАЕ, КАБ ПРЫЙШОЎ І ЎБАЧЫЎ, ЯК МЫ ВЫНОСІМ ЦЕЛЫ З БУДЫНКА.

КОЛЬКІ ЯШЧЭ БУДЗЕ РАСЦІ ГЭТЫ ЦЯРНОЎНІК?

Я ДУМАЮ, ПАКУЛЬ БУДЗЕ СПАЦЬ РУЖА ЦЕРНІ. ЯНА ШТО, НАБРАЛА ВАГУ З ЧАСОЎ РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ?







ЦЯПЕР, КАЛІ МЫ ЗАБРАЛІ РУЖУ, ЛЮДЗІ Ў БУДЫНКУ ПРАСНУЦЦА?
МАБЫЦЬ. НЯ ВЕДАЮ. АЛЕ ГЭТА І НЯ ВАРТА, ПАКУЛЬ ГЭТЫ ТЫП ТОМІ ШАРП СПІЦЬ.
ГРЫМБЛ, ГЭТА БОЗЛІ ВОЎК.
БЯГІ Ў КВАТЭРУ ПІНОКІА І ДАСТАЎ ЯГО ДА МЯНЕ. КАЛІ ЁН СПІЦЬ – РАЗБУДЗІ, КАЛІ ЯГО НЯМА – ЗНАЙДЗІ. ЁН ЛЮБІЦЬ ПІЦЬ У БРЭЙНСТОКЕ.
ТАК, ГЭТА ВАРТА. **ВАРУШЫСЯ**.









ЗРАБІЦЬ ЯГО НАШІМ ШЭРЫФАМ АЗНАЧАЕ ТОЛЬКІ АДНО: ЁН ЗА РАЗ МОЖА СЦІСНУЦЬ СВАЕ ЗУБЫ НА ЎСІХ НАШЫХ ГЛОТКАХ.

БОЛЕЙ Я ТАКОГА **НЕ** ПАЦЯРПЛЮ.

ІНШУЮ РУКУ, СЭР.







ДОБРА, МЫ СКОНЧЫЛІ ЎСЁ, ШТО НАМ **ТРЭБА** БЫЛО ЗРАБІЦЬ З ШАРПАМ.

ДАВАЙЦЕ РАЗБУДЗІМ ЯЕ.
Я З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ. Я ЧАКАЎ ГЭТУ ЧАСТКУ.
УСЕ ЗВЫЧАЙНЫЯ Ў КВАРТАЛЕ СКАРДЗІЛІСЯ НА ШУМ БЕНЗАПІЛАЎ. АЛЕ Я ПРОСТА КОЖНЫ РАЗ ПАЎТАРАЎ: «ЗАГАД МУНІЦЫПАЛІТЭТА», ЯК ТЫ МНЕ І ЗАГАДАЎ.


У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, МЫ ЎСЁ ЗРЭЗАЛІ ДА СВІТАННЯ, АЛЕ ЦЯРНОЎНІКІ ЗНОЎ СПРАБУЮЦЬ ПРАРАСЦІ.


ДЫК ВОСЬ, Я ПАКІНУЎ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ БРЫГАДЫ НАГЛЯДАЦЬ ЗА ІМІ, А САМ ВЯРНУЎСЯ, КАБ ПАВЕДАМІЦЬ.


АЛЕ ЯНЫ ПРЫЦЯГВАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ ПАТРАБУЮЦЬ ПАКАЗАЦЬ НАШЫ РАБОЧЫЯ ЗАГАДЫ.
НЯ ЗАРАЗ, МУХАЛОЎ, ДОБРАЯ ПРАЦА, АЛЕ НЯ ЗАРАЗ.
ЧАМУ ТАК ДОЎГА? ЧАМУ ЯНА НЕ ПРАЧЫНАЕЦЦА?


ГМ-М. Я ГЭТАГА БАЯЎСЯ.
ВЯДЗЬМАРТСВА БЫЛО ВЕЛЬМІ СПЕЦЫФІЧНАЕ. ЯНА МОЖА ПРАЧНУЦЦА ТОЛЬКІ АД ПАЦАЛУНКА ТАГО, ХТО ШЧЫРА КАХАЕ ЯЕ.


НЕКАЛІ ДАЎНО ГЭТА АПІСВАЛА МЯНЕ. Я ЗАЎСЁДЫ ШЧЫРА КАХАЮ ЖАНЧЫНУ, КАЛІ ЗАВАЁЎВАЮ ЯЕ ЎПЕРШЫНЮ. АЛЕ Я ДОБРЫ ТОЛЬКІ Ў ГЭТАЙ ГОНЦЫ.
МАЁ КАХАННЕ ХУТКА МІНАЕ, ЯК ТОЛЬКІ ДАХОДЗІЦЬ ДА СКЛАДАНАЙ СПРАВЫ ПРАЖЫЦЦЯ З ЁЙ.


Я ПРОСТА ЧАРТОЎСКІ ДРЭННЫ Ў ГЭТАЙ ЧАСТЦЫ, ДЗЕ «ЖЫВУЦЬ ДОЎГА І ШЧАСЛІВА».
У ТАКІМ ВЫПАДКУ ШТО НАМ РАБІЦЬ? ЯК НАМ ЯЕ АБУДЗІЦЬ?


НЯ ВЕДАЮ. ЗНАЙДЗІЦЕ ЯКОГА-НЕБУДЗЬ ПРЫНЦА, ЯКІ ПА-САПРАЎДНАМУ ЯЕ КАХАЕ.
ЯК? НАМ ТРЭБА РАЗБУДЗІЦЬ ЯЕ ЗАРАЗ. У НАС НЯМА ЧАСУ ШУКАЦЬ...


ПРАБАЧЦЕ, СПАДАР ВОЎК. Я МАГУ ПАСПРАБАВАЦЬ.
НЯ ЗАРАЗ, МУХАЛОЎ. ГЭТА РАЗМОВА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ. ЗАРАЗ НАМ НЕАБХОДНА БЫЦЬ СУР'ЁЗНЫМІ.

АЛЕ Я СУР'ЁЗНА. ВАМ ПАТРЭБНЫ ПРЫНЦ. А Я ПРЫНЦ. МАБЫЦЬ НЯ ВЕЛЬМІ СІМПАТЫЧНЫ, АЛЕ МНЕ ЖУДАС ЯК ПАДАБАЕЦЦА МІС ЦЕРНІ. Я МАЮ НА ЎВАЗЕ ЯНА... Я ТОЛЬКІ ЗІРНУ НА ЯЕ І...
...А ХТО НЕ?

ЯКОГА Д'ЯБЛА? А ЧАМУ НЕ? ДЗЕЙНІЧАЙ.
ТЫ ЗВАР'ЯЦЕЎ? ЁН ЖА ІМБЕЦЫЛ.

ДАЙ ЯМУ ПАСПРАБАВАЦЬ. ХІБА ГЭТА МОЖА ЧАМУСЬЦІ ПАШКОДЗІЦЬ?


ТРАСЦА МНЕ Ў БОК. ГЭТА ДЗЕЙНІЧАЕ.
ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? ГМ.. ЯК УСЁ АДБЫЛОСЯ? І ЧАМУ Ў МЯНЕ Ў РОЦЕ СМАК ЖУКОЎ?
ЗАРАЗ НЕ МАГУ РАЗМАЎЛЯЦЬ. ШАРП УЖО ПРАЧЫНАЕЦЦА.


ЧАС **ПРАЧЫНАЦЦА**, МАЛЫШ ТОМІ.
О БОЖА, МАЯ ГАЛАВА.
ШТО СА МНОЙ ЗДАРЫЛАСЯ?
ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ, БЫЦЦАМ ХТОСЬЦІ ПАДСЫПАЎ МНЕ СНАТВОРНАЕ.
ГЭТА ПРЫКЛАДНА ТОЕ, ШТО МЫ І ЗРАБІЛІ.


А **БОЖУХНА**! ГЭТА ВЫ!
ЯК ВЫ ДАБРАЛІСЯ ДА МЯНЕ? ШТО ВЫ ЗРАБІЛІ? ШТО ВЫ
ВОСЬ. ПАГЛЯДЗІ Ў ЛЮСТЭРКУ. ПАГЛЯДЗІ НА СВАЮ **ШЫЮ**.


ШТО ВЫ, **ЛЯСНУТЫЯ** СТВАРЭННІ, ЗРАБІЛІ СА МНОЙ?


ТЫ ДАВЕДАЎСЯ, ШТО МЫ ВАМПІРЫ, ТОМІ. ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО МЫ З ТАБОЙ ЗРАБІЛІ. МЫ ПІЛІ ТВАЮ КРОЎ.
ВОХ, БОЖАЧКІ.

ШМАТ, АЛЕ НЕДАСТАТКОВА, КАБ ПЕРАТВАРЫЦЬ ЦЯБЕ Ў АДНАГО З НАС, РАССЛАБСЯ. У ЦЯБЕ НЕ ПАВЫРАСТАЮЦЬ ІКЛЫ, І АД ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ ШАРАХАЦЦА НЯ БУДЗЕШ.

АЛЕ ЗАРАЗ МЫ МОЖАМ САЧЫЦЬ ЗА ТАБОЙ І КАНТРАЛЯВАЦЬ ЦЯБЕ, КАЛІ НАМ БУДЗЕ НЕАБХОДНА.
Я НАЎПРОСТ ЖАДАЎ СЕНСАЦЫІ. Я НІЧОГА ДРЭННАГА **НЕ ХАЦЕЎ.**
ТЫ ГЛЯДЗЕЎ ФІЛЬМЫ, ТЫ **ВЕДАЕШ**, ЯК ГЭТА ДЗЕЙНІЧАЕ.

ТЫ СПРАБАВАЎ ПРАДАЦЬ НАС ЗА ПАРУ ДЗЁН МІМАЛЁТНАЙ СЛАВЫ. МЫ НЕ **ДАЗВАЛЯЕМ** ТАКОГА.
ШТО ВЫ ПЛАНУЕЦЕ ЗРАБІЦЬ СА МНОЙ?

НІЧОГА, ПАКУЛЬ БУДЗЕШ ДОБРА СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ. АЛЕ ЯК ТОЛЬКІ ТЫ ВЫКРЫЕШ НАС, МЫ ПРЫМУСІМ ЦЯБЕ ЗРАБІЦЬ ШТОНЕБУДЗЬ **СМЯРОТНАЕ** З САБОЙ, ПАВЕСІЦЦА, ПЕРАРЭЗАЦЬ ВЕНЫ Ў ВАННАЙ.
УСЁ, ШТО НАМ ПРЫЙДЗЕ У ГАЛАВУ Ў ГЭТЫ ЧАС. МЫ ВЫПІЛІ ТВАЁЙ КРЫВІ, ТЫ НЯ ЗМОЖАШ СУПРАЦІЎЛЯЦЦА НАМ.


Я НЕ ЗБІРАЎСЯ ВАМ **НАШКОДЗІЦЬ**. ВЫ МНЕ ПАДАБАЛІСЯ. ПРАЎДА. Я НАБЛІЖАЎСЯ ДА ВАС ЎСЁ БЛІЖЭЙ І БЛІЖЭЙ ЗА АПОШНІЯ ТРЫ ГАДЫ, ВЫВУЧАЮЧЫ ВАШЫ ГІСТОРЫЮ І АДНОСІНЫ.
АЛЕ ГЭТА БЫЛА ТАКАЯ ГАЛОЎНАЯ НАВІНА.


ЦЯПЕР, ГЭТА НІЯКАЯ НЕ НАВІНА, І, ШАРПІ, КАЛІ ТЫ ЎЖО АДАСЛАЎ ЯЕ КАМУ-НЕБУДЗЬ...
...КАЛІ ЛЮБАЯ ЧАСТКА ТВАЁЙ ГІСТОРЫІ ВЫЙДЗЕ Ў СВЕТ, НАВАТ АД КАГО-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ, МЫ ЗРОБІМ НЕШТА БОЛЬШ, ЧЫМ ПРОСТА ЗАБ'ЕМ ЦЯБЕ.


МЫ ЗНІШЧЫМ ТВАЮ РЭПУТАЦЫЮ. МЫ ПРЫМУСІМ ТВАІХ ДЗЯЦЕЙ, ТВАЮ СЯМ'Ю, ТВАІХ ДЗВЮХ БЫЛЫХ ЖОНАК НЕНАВІДЗІЦЬ ЦЯБЕ.
І ЎСІХ ТВАІХ АДДАНЫХ ЧЫТАЧОЎ ТАКСАМА.
ЧА-ЧАМУ? ЯК? ШТО ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ РАБІЦЬ?


ПАГЛЯДЗІ НА ІХ. ЗАХАВАЙ ІХ, КАЛІ ЖАДАЕШ. У НАС ЁСЦЬ КОПІІ.
AGPA


О НЕ!


ШТО ВЫ НАРАБІЛІ?
ШТО ВЫ ПРЫМУСІЛІ МЯНЕ РАБІЦЬ?


ГЭТЫ МАЛЕНЬКІ ХЛОПЧЫК НА ФОТАЗДЫМКЕ З ТАБОЙ АДЗІН З НАС, БЕССМЯРОТНЫ. ЯМУ БОЛЬШ ТРОХСОТ ГАДОЎ.
АЛЕ ВЫГЛЯДАЕ ЁН ЯК ВАСЬМІ-ДЗЕВЯЦІГАДОВЫ ХЛОП-ЧЫК... АСАБЛІВА КАЛІ МЫ ЯГО ТАК АПРАНАЕМ.


Я НІКОЛІ ГЭТАГА НЕ РАБІЎ. Я НЯ...
Я НЯ МОГ.
ШТО ПРА ЦЯБЕ ПАДУМАЮЦЬ ЛЮДЗІ, КАЛІ ГЭТА ВЫЯВІЦЦА? НАВАТ У НАШУ РАЗНЯВОЛЕНУЮ ЭПОХУ ТАКІЯ ПАВОДЗІНЫ ЗАСТАЮЦЦА АГІДНЫМІ.


ВОСЬ ЯГО ПАДРАБЯЗНАЕ ЭКСПЕРТНАЕ ІНТЭРВ'Ю З ДЗІЦЯЧЫМ ПСІХОЛАГАМ.
ЦЭЛЫХ ДЗВЕ ГАДЗІНЫ. ТАБЕ АСАБЛІВА СПАДАБАЕЦЦА ЧАСТ-КА, ДЗЕ ЁН ПАКАЗВАЕ НА СВАІМ ЛЮБІМЫМ ПЛЮШАВЫМ МІШКУ ЎСЕ ТЫЯ НЯПРАВІЛЬНЫЯ МЕСЦЫ, ДЗЕ ТЫ ЯГО МАЦАЎ.


ЁН ВЕЛЬМІ ПЕРАКАНАЎЧЫ.


ВЫ НЯ МОЖАЦЕ ГЭТА СА МНОЙ **ЗРАБІЦЬ.** ТАКОЕ... НАВАТ КАЛІ **ПАЗНЕЙ** БУДЗЕ ДАКАЗАНА, ШТО АБВІНАВАЧАННЕ ЦАЛКАМ НЕПРАЎДЗІВАЕ...
...ЗАГУБЛЯЕ ЛЮДЗЯМ АСТАТАК ЖЫЦЦЯ.
ТАК, ЗАГУБЛЯЕ. АЛЕ КАЛІ ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ПАЖАДАЕШ ПАШКАДАВАЦЬ СЯБЕ, УСПОМНІ, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ СВОЙ УНЁСАК У СТВАРЭННЕ ГЭТАЙ КУЛЬТУРЫ.


САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ Ў СВЕТ, СТВОРАНЫ ТАБОЙ...
...ТЫ НІКЧЭМНЫ МЕДЫЙНЫ ГАК.


ШТО МНЕ РАБІЦЬ?
НІЧОГА.
ВЯРТАЙСЯ ДА СВАЙГО ЖЫЦЦЯ І **ЗАБУДЗЬ** УСЁ ПРА НАС, НАЗАЎСЁДЫ. ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО НІХТО НІКОЛІ НІЧОГА НЯ ВЫСВЕТЛІЦЬ ПРА НАС, НАВАТ ПАСЛЯ ТВАЁЙ НАТУРАЛЬНАЙ СМЕРЦІ... **КАЛІ** ЦЯБЕ ХВАЛЮЕ ТОЕ, ЯК ЦЯБЕ БУДУЦЬ ПОМНІЦЬ.


УВАХОДЗЬ, ДЖЭК.
ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ГЭТЫ КАВАЛАК ЛАЙНА АПРАНЕЦЦА, ВЫВЕДЗІ ЯГО АДСЮЛЬ І ПАСАДЗІ Ў ТАКСІ. ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ЁН ЗАБЯРЭ З САБОЙ ВІДЭАПЛЁНКУ І ЎСЕ СВАЕ БРУДНЫЯ ФОТАЗДЫМКІ.
АКЕЙ, ШЭРЫФ.


ТЫ ПАЖАДАЕШ ЯК МАЕ БЫЦЬ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ІХ, ТОМІ, КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ЦЯБЕ ЗНОЎ ПА-ЦЯГНЕ ПАГУЛЯЦЬ У ЖУРНАЛІСТА.


КАЛІ АПУБЛІКУЕШ ТЫ, АПУБЛІКУЕМ МЫ. УСЁ ВЕЛЬМІ ПРОСТА.


А ў гэты час...
ПАЗАЛОЧАНАЯ САНТЭХНІКА АД МУРВУД І БЕРМАН.


ВЕНЕЦЫЯНСКІ МАР-МУРОВАЯ КАФЛЯ І СТАЛЬНІЦА.


ЭТРУСКІЯ СТАТУІ.

КЕРАМІКА ДЫНАСТЫІ СУН. О, ЦЕРНІ, МАЁ ЗГУБЛЕН-НАЕ КАХАННЕ...
...ТЫ НЯДРЭННА ПРЫЛАДЗІЛАСЯ.


Я ЛІЧУ, ТАБЕ ЯШЧЭ НЯ ВАРТА ЎСТАВАЦЬ, ЦЕРНІ, МІЛКА.


ТАБЕ ТРЭБА ПАЛЯЖАЦЬ, ПАКУЛЬ НЯ БУДЗЕШ ПАЧУВАЦЦА ЛЕПЕЙ.
МНЕ ДОБРА, ТОЛЬКІ ПАЧУВАЮСЯ ТРОХІ РАЗГУБЛЕНАЙ.


МАЕ ЧАРЫ СНУ ПАДЧАС ПАКІДАЮЦЬ ПАСЛЯ СЯБЕ ТАКІЯ ПАЧУЦЦІ.


ГЭТА НАРМАЛЬНА. ТЫ Ў БЯСПЕЦЫ, І ДОМА, У ДОБРЫХ РУКАХ.
МЫ ПРОСТА ПАСЯДЗІМ ТУТ, ПАКУЛЬ ГЭТА НЯ ПРОЙДЗЕ.
ЧАМУ ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТУТ?


КАМУСЬЦІ ТРЭБА БЫЛО ЗАСТАЦЦА І ДАГЛЯДАЦЬ ЦЯБЕ.


ЧАМУ ТЫ ТАК **УСМІХАЕШСЯ?**

«ДА НІЧОГА. ПРОСТА ЎСПОМНІЎ ШТОСЬЦІ ЗАБАЎНАЕ, ШТО МНЕ ХТОСЬЦІ НЯДАЎНА РАСКАЗВАЎ».
У МЯНЕ ЎСЕ ПЛЁНКІ З КАМЕР БЯСПЕКІ. ЦЯПЕР НАМ ТРЭБА ТОЛЬКІ ДАЧАКАЦЦА, ПАКУЛЬ ЯНЫ СКОНЧАЦЬ НАВЕРСЕ.
ПАГЛЯДЗІ НА ЯЕ, МУХ.
ЯНА ЗАЎСЁДЫ ВЫГЛЯДАЛА ЛЕПЕЙ, КАЛІ СПАЛА.
ЯНА ВЕЛЬМІ **ПРЫГОЖАНЬКАЯ**, СПАДАР ВЫДАТНЫ, І ЯШЧЭ БАГАТАЯ.
ГЭТА ЗАЎСЁДЫ ДЗЕЙНІЧАЕ.
**СУР'ЁЗНА?** РУЖА ЦЕРНІ ВЫБРАЛАСЯ, ЗАХАВАЎШЫ ЎСЁ СВАЁ **БАГАЦЦЕ?** Я НІКОЛІ ПРА ГЭТА НЯ ЧУЎ.
НЕ-А, ЯНА З'ЯВІЛАСЯ ТУТ ТАКОЙ ЖА БЕДНАЙ, ЯК І ЎСЕ АСТАТНІЯ. АЛЕ ГЭТА НЕ ПРАЦЯГНУЛАСЯ ДОЎГА.
ПАМЯТАЕЦЕ ЎСЕ ТЫЯ ПАДАРУНКІ ХРОСНАЙ, ЯКІЯ РУЖА АТРЫМАЛА Ў ДЗЕНЬ ХРЫШЧЭННЯ? АДЗІН З ІХ БЫЎ НАСТУПНЫ: ЯНА ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕ БАГАТАЯ. НА ПРАЦЯГУ ГОДА ПАСЛЯ ПРЫБЫЦЦЯ СЮДЫ, ЯНА ЗАРАБІЛА КУЧУ ГРОШАЙ НА БІРЖЫ. ВЕЛІЗАРНАЯ МАГІЯ, ВЫ НЕ ЗНАХОДЗІЦЕ?
І НЕ КАЖЫ.
КАЛІ Б ЯНА РАЗДАЛА СЁННЯ ЎСЁ, ТО ЗАЎТРА, НАПЭЎНА, ЯНА Б ВЫЙГРАЛА Ў ЛАТАРЭЮ.
З КІМ ЯНА ЗАРАЗ **СУСТРАКАЕЦЦА?**


ЧАМУ ГЭТА ТЫ РАПТАМ СТАЎ ТАКІ МІЛЫ СА МНОЙ? ШТО ТЫ ЗАДУМАЎ?
ГЭТА ЎСЁ НЯ ТАК РАПТОЎНА, ДАРАЖЭНЬКАЯ. МЫ ПРОСТА НЯ МЕЛІ ЗНОСІН З ЧАСУ ЎЦЁКАЎ З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ. Я ВЕДАЮ, ШТО МЫ СКОНЧЫЛІ НАШ ШЛЮБ НА ДРЭННАЙ НОЦЕ, І ГЭТА БЫЛА ЦАЛКАМ МАЯ ВІНА. Я БЫЎ НЯ ГОДНЫ ДА СВЯШЧЭННАГА СЯМЕЙНАГА ІНСТЫТУТА ШЛЮБУ.
АЛЕ З ТАГО ЧАСУ Я ЗАРАЗІЎСЯ ДУХАМ УСЕАГУЛЬНАЙ АМНІСТЫІ. КОЖНЫ З НАС ЗАНЯЎ ПУБЛІЧНУЮ ПАЗІЦЫЮ НА БОКУ ЎСЁДАРАВАННЯ І ЖЫЦЦЯ З НОВАЙ СТАРОНКІ.

АЛЕ ГЭТА НЕ АДНОСІЦЦА ДА...
І ТАБОЙ ТРЭБА ЗАХАПЛЯЦЦА БОЛЬШ ЗА ЎСЁ, ТАМУ ШТО ТЫ І Я, МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ПРАБАЧАЦЬ ТРЭБА ТАБЕ.
Я ВЫМУШАНЫ ПРЫЗНАЦЦА... Я ЗНАХОДЖУ, ШТО СТАЎЛЮСЯ З ГЛЫБОКАЙ ПАШАНАЙ ПЕРАД ВЫСАКАРОДНАСЦЮ ТВАЙГО СЭРЦА.

АЛЕ...
ДАКЛАДНА МАЕ ДУМКІ... АЛЕ Я НЕ МАГУ ПРЫНЯЦЬ ТВАЁ ПРАБАЧЭННЕ І РУХАЦЦА ДАЛЕЙ, НЯ ВЫКАЗАЎШЫ НІЯКАГА КАЯННЯ СА СВАЙГО БОКУ.
СТАРЫ ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ МАГЧЫМА ЗМОГ БЫ, АЛЕ ТАГО ЧАЛАВЕКА БОЛЬШ НЕ ІСНУЕ.

Я МАЮ НАМЕР **ЗАСЛУЖЫЦЬ** ТОЕ, ШТО ТЫ ДАЛА МНЕ ПРОСТА ТАК.
І Ў ЯКАСЦІ МАЙГО КАЯННЯ Я ЗБІРАЮСЯ ЗАСТАЦЦА ТУТ З ТАБОЙ... НЕ, НЕ Ў РАМАНТЫЧНЫМ СЭНСЕ... ТЫЯ ДНІ ЎЖО ДАЎНО МІНУЛІ НАС. Я БОЛЕЙ **НЕ ЗАСЛУГОЎВАЮ** ТАГО ШЧАСЦЯ.

ТАМУ Я ЗАСТАЮСЯ ТУТ, ПЛАТАНІЧНА, У АДНЫМ З ІНШЫХ ПАКОЯЎ, І Я БУДУ КЛАПАЦІЦЦА ПРА ЦЯБЕ.
САЧЫЦЬ ЗА ТАБОЙ І ТВАІМІ ЧАРАМІ, МЕСЯЦЫ, ГАДЫ ЦІ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ... СТОЛЬКІ, КОЛЬКІ СПАТРЭБІЦЦА, КАБ АДПРАЦАВАЦЬ МОЙ ДОЎГ.
АЛЕ...


Праз некалькі дзён...
Ты дазволіла яму ўехаць да цябе?


Усё ня так. Ён жыве ў гасцёўні.
Б'юся пра заклад, у самай вялікай.
Можам мы калі ласка, перайсці да справы? Навошта ты паклікаў мяне сюды, спадар Воўк?
Я разбіраюся з вызначанай папяровай цяганінай, і адна дэталь твайго інцыдэнту ў «Ціфані» не дае мне спакою. У нас былі некаторыя цяжкасці з тваім абуджэннем на мінулым тыдні пасля справы з Шарпам.


Але я так і не даведаўся, як цябе абудзілі тады... у гэтай краме... І чаму ніхто не заўважыў у гэтым нічога дзіўнага.


У аднаго з... эээ... паліцэйскіх, якія зрэагавалі на сітуацыю... у яго быў паліцэйскі сабака.
Вельмі шчадралюбны паліцэйскі сабака. Я прачнулася, калі ён лізаў мой твар.
І толькі не кажы мне... сабаку звалі Прынц?


Раскажаш хоць што-небудзь з гэтага і я буду ненавідзець цябе вечна.
















ДАЛЕЙ: МАРК БУКІНГЕМ І СЦІВ ЛЭЙАЛОА ВЯРТАЮЦЦА Ў НОВАЙ ГІСТОРЫІ!